Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Выдаецца са снежня 1994 года

№33(697) 15 жніўня 2013 года.
Кошт свабодны.

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

















**Вадасвятны малебен святому вялікапакутніку і лекару Панцелеімону на крыніцы Грамякі.** Працяг тэмы на стар.4. *Фота Ул. Скрабатуна.*

**Браслаўскі раён**

# На будоўлях застой

■ Станіслаў Раманчук

**Ужо і на дзяржаўным узроўні ўстрывожаны станам спраў з жыллёвым будаўніцтвам у Прыдзвінні.**

Гэта ў поўнай ступені адчулі на сабе забудоўшчыкі ў Браславе, бо іх шматкватэрны жылы дом будаўнікі павінны былі здаць у эксплуатацыю яшчэ летась напрыканцы лютага. Аднак і летам год назад на аб'екце справы ледзь ішлі, бо ў падрадчыка проста не хапала рабочых. На шчасце, жыхарам райцэнтра дапамог выпадак, бо яны са скаргай падчас выязнога прыёму звярнуліся да старшыні Камітэта дзяржкантролю Віцебскай вобласці Васіля Максімава. Сітуацыю яго спецыялісты вывучылі з выездам на месца і адрэагавалі, як след. У выніку сёлета на доме-доўгабудзе з'явіліся новыя муляры, бетоншчыкі і іншыя спецыялісты, пачалі працаваць у дзве змены. Бягучым летам гэты 57-кватэрны дом кааператыва № 8 нарэшце быў здадзены ў эксплуатацыю, бедакам-навасёлам уручылі ключы ад іх новенькіх кватэр. Аднак цяпер нават у адным з самых багатых гарадоў Беларусі Наваполацку хапае падобных праблем, бо чакаюць свайго завяршэння яшчэ 8 новабудоўляў з пратэрмінаванай здачай. У нафтаградзе не хапае трэць неабходных спецыялістаў у бударганізацыях. Тым часам кошт узводзімых кватэр з-за зацягвання тэрмінаў іх уводу расце, а будучым навасёлам хоць плач. Нягледзячы на тое, што навапалачане зарабляюць ад 7 і болей млн. рублёў у сярэднім штомесяц, жадаючых будаваць жыллё на камерцыйных умовах за свае сродкі – практычна не знаходзіцца.

**Пастаўскі раён**

# Свіней пад нож

■ Кастусь Александровіч

**Нягледзячы на прымаемыя ў краіне меры, сітуацыя з афрыканскай чумой свіней імкліва развіваецца ў горшы бок.**

Да нядаўняга часу яна была больш трывожная на ўсходзе Віцебшчыны, дзе шмат дзе поўнасцю знішчылі іх пагалоўе на асабістых падворках. Зараз з гэтай бядой сутыкнуліся паўсюдна ў вобласці. Услед за іншымі і ў Пастаўскім раёне прыйшлося прыняць рашэнне аб увядзенні зон адчуджэння пакуль у радыусе 5 км вакол двух мясцовых свінакомплексаў, на якіх гадуецца каля 30 тысяч свіней. Яны вырошчваюцца ў сельгаспрадпрыемствах "Камайскі-агра" і "Дунілавічы-агра". Зараз не толькі 250 работнікам абодвух комплексаў забаранілі трымаць свіней на панадворках, але і жыхарам вёсак па суседстве. Для многіх вяскоўцаў было вялікім стрэсам пусціць пад нож маладняк летам, бо за год толькі гаспадаркі прадалі людзям 4600 галоў парасят. Трывожна і жыхарам аграгарадка Навасёлкі, паколькі мясцовы калгас таксама мае сваю буйную свінаферму і мясаперапрацоўчы цэх. У сувязі з навалай АЧС на Пастаўшчыне таксама ўзмоцнена абарона свінакомплексаў, якія перавялі на закрыты рэжым працы. Іх работнікам катэгарычна на сходах забаранілі прыносіць з дому ежу, абавязалі штодзень прымаць душ, праходзіць праз санпропускнік. Каб прадухіліць распаўсюджанне віруса чумы, будынкі комплексаў абнясуць дадатковым плотам з металічнай сеткі вышынёй каля 2-х метраў. Вакол комплексаў будзе выразаны лес, а ў масівах на адлегласці да 20 км пачаўся масавы адстрэл дзікіх кабаноў.

**Полацкі раён**

# Малочных спраў майстры

■ Чэслаў Якубовіч

**Ад іншых рэгіёнаў Полацкі раён адрозніваецца творчым падыходам да арганізацыі розных мерапрыемстваў.**

Услед за праведзеным тут чэмпіянатам па зборы чарніц на базе аграгарадка Гараны адбыўся днямі і незвычайны фестываль "Малочныя рэкі – 2013". Яго ўдзельнікі сабраліся на тэрыторыі мясцовай сярэдняй школы, дзе побач з выставай дзіцячай творчасці былі арганізаваны кірмаш-дэгустацыя малочнай прадукцыі як мясцовага малочнага камбіната, так і розных малочных страў і дэлікатэсаў майстроў з розных куткоў раёна. Тут былі і слаёныя дэсерты-жэле, і дамашнія сыры, розныя кактэйлі, блінчыкі, сырнікі, піражкі. Прайшло ў рамках фэсту і дзіцячае свята "Піце, дзеці, малако – будзеце здаровыя!", а двое хлопцаў з мясцовага ліцэя сельскагаспадарчай вытворчасці сталі пераможцамі конкурса па хуткасным распіцці малака, які правёў малочны камбінат. Падчас свята ўшанавалі лепшых працаўнікоў галіны, якія пазнаёміліся з сучаснымі тэхналогіямі ўтрымання рагуль. Лепшыя даяркі краю паўдзельнічалі і ў літаратурным конкурсе на лепшы рэкламны слоган малочных прадуктаў Полаччыны. Кульмінацыяй фэста сталі выбары малочнага караля, а гэта ганаровае званне было прысуджана кіраўніку мясцовай гаспадаркі Аляксандру Калтунову. На яго фермах лепшыя паказчыкі ў рэгіёне, і ўся прадукцыя прадаецца класам "Экстра". Адна з лепшых у вобласці і ферма вёскі Арцюхі, а на свяце яе работніцам уручылі дыпломы "Малочных спраў майстры", падарункі і спецыяльныя ленты. На малочным свяце была яшчэ і свая багатая культурная праграма. З добрым настроем работнікі галіны развіталіся да сустрэчы ў наступным годзе зноў.

**Аб самым надзённым**

# З-ЗА СКЛАДАНАЙ ЗІМЫ БЕЛАРУСЬ НЕ АТРЫМАЕ СЁЛЕТА 400 ТЫСЯЧ ТОН ЗЕРНЯ, МНОГІЯ ПАНАДВОРКІ ЗАСТАНУЦЦА БЕЗ СВІНЕЙ



■ Аляксандр Цішкевіч

**У Беларусі сёлета мелася дастаткова збожжаўборачнай тэхнікі і рэсурсаў для таго, каб пры спрыяльным надвор'і, убраць зерневыя і зернебабовыя за тры тыдні працы. І ўжо першыя дні ўборкі зацвердзілі падзенне ўраджайнасці дзесяці цэнтнераў на 7 з кожнага гектара ў параўнанні з мінулым годам, калі яна складала 38 ц/га.**

Сёлета ў Беларусі масавая ўборка вырашчанага ўраджаю пачалася пасля спынення зацяжных дажджоў на фоне дзвюх супрацьлеглых падзей. Адна з іх радасная, бо многія суайчыннікі, праваслаўныя хрысціяне, адзначылі знамянальную дату – 1025-годдзе Хрышчэння Русі. У беларускай сталіцы адбыўся гістарычны момант прыбыцця спецпоездам Крыжа Андрэя Першазваннага, на якім, па паданні, гэты святы прыняў пакутніцкую смерць. Ва ўрачыстасцях у Мінску пад адкрытым небам удзельнічалі больш як 50 тысяч чалавек на Божай літургіі, іншых духоўных мерапрыемствах.

А вось шэраг беларусаў выехалі ў поле ўбіраць вырашчаны хлеб з даволі прыгнечаным настроем. Пасля прайшоўшай у сталіцы нарады глаў ветэрынарных служб Беларусі, Расіі і Украіны па праблеме афрыканскай чумы свіней былі прыняты непапулярныя сярод насельніцтва рашэнні. Па-першае, на дзяржаўным узроўні загадалі па ўсёй Беларусі вакол 108 дзеючых свінакомплексаў і таксама буйных свінаферм увесці зоны адчуджэння ў радыусе 5-10 кіламетраў. І калі дагэтуль, іх работнікі не павінны былі трымаць свіней на асабістых панадворках, то цяпер катэгарычна забаронена нават ежу прыносіць з сабой на працу.

Горш таго, з-за пагражальнай сітуацыі па АЧС мясцоваму насельніцтву трэба было неадкладна пазбавіцца паўсюдна ад пагалоўя свіней у хлявах у зоне паблізу свінакомплексаў. Сітуацыя настолькі сур'ёзная, што пасля знішчэння свіней на падворках тэрыторыю буйных ферм загадана абнесці дадатковым высокім плотам (вышынёй каля 2-х метраў) вырубіць лес, а ў радыусе 20 км пазбавіцца ад дзікіх кабаноў, бо іншых мер ліквідацыі гэтага страшнага захворвання не існуе. Вось з такім настроем, калі дамашнія свінкі пайшлі пад нож, многія камбайнеры выехалі ў поле.

У Беларусі сёлета мелася дастаткова збожжаўборачнай тэхнікі і рэсурсаў для таго, каб пры спрыяльным надвор'і, убраць зерневыя і зернебабовыя за тры тыдні працы. І ўжо першыя дні ўборкі зацвердзілі падзенне ўраджайнасці дзесяці цэнтнераў на 7 з кожнага гектара ў параўнанні з мінулым годам, калі яна складала 38 ц/га. Прычына такога падзення, як і прагназавалася вясной спецыялістамі, ляжыць на паверхні. Адчувальны недабор збожжа адбудзецца найперш з-за складанай апошняй зімы. Яна сёлета запомнілася многім сваёй працягласцю – амаль 140 дзён.

Звычайна снег у нашай краіне ляжаў на працягу трох месяцаў, альбо 90-95 дзён. Прыродная анамалія гэтага года прывяла да таго, што азімыя культуры выйшлі з зімы аслабленымі, на асобных палях да паловы ўраджаю загінула. Іх нават не перасявалі, паколькі і сама вясновая сяўба пачалася са спазненнем да трох тыдняў. На шчасце, потым прырода ўсё ж усміхнулася беларусам, бо яравыя культуры трапілі падчас наліву калоссяў пад моцныя дажджы. І тым не менш недабор ураджаю будзе значны, чакаецца, што краіна атрымае на 400 тысяч тон збожжа меней, чым летась.

Праўда, азімы рапс даў ураджайнасць на ўзроўні 2012 года, а кукуруза ўродзіцца нават лепей, па ацэнках, чым год назад. Але і сёлета айчынныя гаспадаркі сутыкнуліся з ранейшымі, найперш з фінансавымі цяжкасцямі падчас уборкі. На месцах толькі лічаныя сельгаспрадпрыемствы мелі ўласныя сродкі, каб закупіць на жніво паліва, неабходныя запчасткі для камбайнаў. Ды і, як і раней, у многіх калгасах запасы саляркі і бензіну былі на 2-3 дні працы ў полі.

Для правядзення сёлетняй уборачнай кампаніі, па дадзеных Мінсельгасхарча Беларусі, не хапала 1,3 трлн. рублёў. У апошні момант грошы за кошт крэдытных рэсурсаў пайшлі на месцы на набыццё паліва, а гаспадаркі крэдытавалі хлебапрыёмныя прадпрыемствы, буйныя жывёлагадоўчыя комплексы, камбінаты хлебапрадуктаў. Дарэчы, цана хлеба адчувальная, толькі падчас жніва на набыццё паліва трэба было патрасціць каля 4 трыльёнаў рублёў. Як і раней, нашай краіне прыйдзецца закупляць і высокаякаснае зерне за мяжой на вытворчасць макарон (у мінулым годзе завезлі 29 тысяч тон).

Сёлета такія экспартныя закупкі яшчэ больш узрастуць. Цікава, што нягледзячы на абстаноўку з афрыканскай чумой, Беларусь прадоўжыць закупляць камбікорм для свінакомплексаў у Расіі, дзе зафіксавана ўжо 60 ачагоў АЧС. Ва ўрадзе РФ нават разглядаецца пытанне аб поўнай забароне вырошчвання свіней на асабістых панадворках і на невялікіх фермерскіх свінафермах. У нас жа прызналі факты чумы і ў Мінскай вобласці ў шэрагу вёсак і ў лясах сярод дзікоў, але ,на шчасце, на свінакомплесы яна не пранікла. Да канца лета з уборкай зерня беларусы справяцца, і пакуль праблема з АЧС і для нас стала сур'ёзнай.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 15.08.13 | | | | Пятніца 16.08.13 | | | | Субота 17.08.13 | | | | Нядзеля 18.08.13 | | | | Пнд.19.08.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +11 | +14 | +18 | +14 | +12 | +14 | +19 | +14 | +10 | +15 | +22 | +17 | +13 | +17 | +24 | +18 | +14 | +18 | +22 |
| Ціск | 748 | 749 | 749 | 750 | 751 | 752 | 752 | 752 | 752 | 752 | 750 | 749 | 749 | 749 | 748 | 747 | 746 | 745 | 745 |
| Вільготнасць | 90 | 83 | 54 | 81 | 98 | 93 | 50 | 86 | 96 | 79 | 42 | 74 | 82 | 76 | 39 | 66 | 78 | 75 | 61 |
| Вецер м/сек | 3 Пд-З | 5 Пд-З | 6 З | 3 З | 3 З | 3 З | 4 З | 1 Пд | 2 Пд-У | 1 Пд | 4 Пд | 4 Пд-У | 3 Пд | 4 Пд | 5 Пд | 5 Пд-У | 4 Пд-У | 3 Пд | 5 Пд |

## Дзень за днём

**Спецыялісты пацвердзілі, што сёлета ўраджайнасць збожжа па Беларусі зменшыцца з леташніх 38 да 31 цэнтнера з гектара з-за анамальнай зімы. Тарыфную стаўку 1-га разраду паабяцалі павысіць беларусам з 1-га верасня. У Беларусі пачаўся чацвёрты за апошнія 5 гадоў крызіс у сферы рублёвых дэпазітаў насельніцтва, людзі сталі актыўна пераводзіць іх у валютныя. Сёлета рэзка вырасла да 54,1 % колькасць стратных гаспадарак, агулам даўгі калгасаў перавысілі 4 мільярды долараў. У вышэйшых навучальных установах сельскагаспадарчага профілю з-за недабору студэнтаў прадоўжылі тэрміны прыёму дакументаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Кіраўніцтва Еўрасаюза вырашыла стварыць агульную ўласную спецслужбу, сістэму сувязі і камандавання для абаронных мэт дзяржаў ЕС, інтэграцыі разведак.

**Туніс.** Па краіне пракаціліся масавыя хваляванні і акцыі пратэсту пасля забойства дэпутата парламента і аднаго з лідараў апазіцыі ісламістам Махамеда аль-Брахмі.

**Кітай.** Аднаму з самых уплывовых дзеячаў ЦК КПК у г. Чунцін Бо Сілаю прад'явілі абвінавачванні ў карупцыі, атрыманні хабару і злоўжываннях сваімі паўнамоцтвамі.

**Грэцыя.** Кааліцыйны ўрад атрымаў падтрымку парламента новых мер жорсткай эканоміі, скарачэння яшчэ 25 тысяч дзяржслужачых, нягледзячы на масавыя пратэсты народа.

**Польшча.** З пачатку года золатавалютныя рэзервы краіны выраслі яшчэ больш на 5 млрд. еўра і дасягнулі рэкордных 85 млрд. EUR, ужо 20 гадоў польская эканоміка на ўздыме.

**Украіна.** Паблізу Кіева на палігоне паспяхова прайшлі выпрабаванні навейшага ракетнага супрацьтанкавага комплексу "Карсар", які знішчае бронетэхніку на адлегласці да 2,5 км.

**Расія.** Спецыялісты назвалі палітыкай забарону Расспажыўнагляду на ўвоз у РФ 200 відаў прадукцыі і цукерак буйнейшай кандытарскай кампаніі Украіны "Рашэн".

**Фінляндыя**. Некалі самая паспяховая ў свеце кампанія Nokia панесла страты ўжо на 4 млрд. USD, фіны імкліва губляюць рынкі збыту смартфонаў у Кітаі, ЗША, Канадзе.

**Іспанія.** У выніку буйнейшай за 40 гадоў аварыі пры крушэнні 13 вагонаў цягніка на захадзе краіны загінулі 80 пасажыраў і 130 чалавек атрымалі цяжкія траўмы і раненні.

**Італія.** З-за выхаду са строю тармазоў упаў вечарам з горнай дарогі аўтобус з 50 паломнікамі, з іх толькі 11 чалавек засталіся жывыя, але атрымалі вельмі цяжкія траўмы.

**Узбекістан.** У газеце "Туркістон" з'явіўся чарговы хвалебны артыкул пра нязменнага прэзідэнта І. Карымава, упершыню яго назвалі мудрым і справядлівым … падышахам.

**Іран.** Пасля заканчэння сваіх паўнамоцтваў былы прэзідэнт, доктар навук Махмуд Ахмадзінежад узначаліў у Тэгеране новы тэхналагічны ўніверсітэт нанатэхналогій.

**Венесуэла.** На працягу тыдня па ўсёй краіне святкавалі з канцэртамі і танцамі , службамі ў храмах 59-ю гадавіну нараджэння свайго памерлага камандантэ, прэзідэнта Уга Чавеса.

**Тайвань.** Міністр абароны Као Хуа-чу сышоў у адстаўку пасля недарэчнай смерці салдата, былі арыштаваны і 4 афіцэры яго часці, якія давялі воіна да сардэчнага прыступу.

**ЗША.** Пачаў вяшчанне першы ў свеце кругласутачны тэлеканал для … сабак DOGTV, распрацаваны вучонымі для адаптацыі жывёл, пачата праца і над тэлеканалам для кошак.

# Белаграпрабанк спыніў выдачу крэдытаў на жыллё пад 12% і 14% гадавых




■ Ганна Кот - БЕЛТА

**Белаграпрамбанк з сённяшняга дня прыпыніў выдачу крэдытаў на жыллё пад 12% і 14% гадавых, паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў банку.**

**Да гэтага Белаграпрамбанк прапаноўваў крэдыты па зніжаных стаўках малазабяспечаным шматдзетным (пад 12% гадавых) і нешматдзетным (пад 14% гадавых) чаргавікам пры ўмове пражывання і будаўніцтва жылля ў сельскай мясцовасці**.

Цяпер у банку можна ўзяць толькі крэдыт на нерухомасць пад 28,5% гадавых (стаўка рэфінансавання плюс 5 працэнтных пунктаў) на тэрмін да 20 гадоў.

Белаграпрамбанк з'яўляецца адным з трох дзяржаўных банкаў, якія ў канцы лютага - пачатку сакавіка 2013 г. пачалі выдаваць крэдыты на нерухомасць па зніжаных працэнтных стаўках тым грамадзянам, якія стаяць на ўліку маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых ўмоў, Тады для чаргавікоў, якія пражываюць у гарадах, стаўка была зніжана да 16% гадавых, для сельскіх жыхароў – да 14%. Для шматдзетных сем'яў, якія не маюць права на дзяржпадтрымку, стаўка склала 12% гадавых. Двума іншымі банкамі сталі Беларусбанк і Белінвестбанк.

У канцы ліпеня Белінвестбанк прыпыніў выдачу крэдытаў на нерухомасць па зніжаных стаўках, а затым і ўсіх крэдытаў на нерухомасць.

Наступным выдачу крэдытаў на жыллё для чаргавікоў пад 14% і 16% гадавых прыпыніў Беларусбанк. У цяперашні час банк прапануе патэнцыйным кліентам тры крэдыты на нерухомасць (акрамя крэдытаў на будаўніцтва і набыццё жылля па сістэме будзберажэнняў). Першы з іх са стаўкай 12% гадавых на тэрмін да 20 гадоў даступны шматдзетным сем'ям. Пры гэтым даход на кожнага члена сям'і ў чаргавіка, які хоча атрымаць такі крэдыт, не павінен перавышаць Br4, 788 млн. у месяц. Астатнім чаргавікам, якія жывуць у нястачы, Беларусбанк прапаноўвае крэдыт на тэрмін да 20 гадоў пад 25,5% гадавых (стаўка рэфінансавання плюс 2 працэнтных пункты). Тыя, хто не знаходзіцца на чарзе для маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, могуць пракрэдытавацца ў Беларусбанка пад 28,5% гадавых (стаўка рэфінансавання плюс 5 працэнтных пунктаў) на тэрмін да 15 гадоў.

Разам з тым у краіне не спыненая выдача льготных крэдытаў на жыллё для катэгорый грамадзян, пералічаных ва ўказе № 13 Прэзідэнта Беларусі ад 6 студзеня 2012 года.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Смалявічы.** Многія жыхары 12 дачных кааператываў выступілі супраць будаўніцтва вакол іх тэрыторыі на плошчы 400 гектараў кітайска-беларускага індустрыяльнага парка.

**Магілёў.** Мясцовае ААТ "Хімвалакно" аб'явіла тэндар на будаўніцтва за 2,5 гады пад ключ сучаснага поліэфірнага завода на плошчы 30 гектараў коштам 300 мільёнаў долараў.

**Мінск.** Глава Мінсельгасхарча РБ Леанід Заяц заклікаў не панікаваць і не драматызаваць сітуацыю з АЧС, раёны ўспышак афрыканскай чумы свіней ужо быццам лакалізаваны.

**Пінск.** Хірургам Мінскай абласной бальніцы ўдалося паспяхова прышыць руку мясцоваму 5-гадоваму хлопчыку, якую дома выпадкова адарвала пральнай машынай.

**Салігорск.** З пасады генеральнага дырэктара Беларускай калійнай кампаніі Валерый Іваноў стаў намеснікам главы Адміністрацыі прэзідэнта, БКК узначаліла яго памочніца А. Кудравец.

**Асіповічы.** На тэрыторыі раёна першымі ў краіне адключылі аналагавае тэлевяшчанне, восенню пераходзіць на лічбавае ТБ Жлобін, Бабруйск, Касцюковічы, затым яшчэ 21 РТС.

**Мінск.** З балкона на 8-м паверсе свайго дома выкінуўся і загінуў 60-гадовы дырэктар гасцініцы "Планета" В. Агірэнка, калі па яго прыехалі аператыўнікі ў бронекамізельках.

**Касцюковічы.** На дарозе на Самацэвічы днём абрушылася частка аўтамабільнага маста, на шчасце, у гэты момант людзей там не было і не аказалася пацярпелых.

**Нясвіж.** Паблізу мясцовага замка кінастудыя "Беларусьфільм" і расійская кампанія "Москіт" правялі здымкі сумеснага фільма" З 8 сакавіка, мужчыны!", яго бюджэт складае 3 мільёны долараў.

**Быхаў.** Гасцям Дня беларускага пісьменства па дамоўленасці з БПЦ паказжуць славуты старажытны абраз Баркалаўскай Божай Маці, які даставяць з жаночага манастыра.

**Рэчыца.** Днём на жніве падчас абеду ў полі шаравая маланка траўмавала траіх шафёраў калгаса "XXI з'езд КПСС" ва ўзросце 52, 49 і 43 гады, якіх адразу даставілі ў бальніцу.

**Бабруйск.** Па факце інцыдэнту з 16-гадовай дзяўчынай завялі крымінальную справу, яе сілай вывезлі ў лес, забралі абутак, мабільны тэлефон і вымазалі чорнай фарбай.

**Барысаў.** Упершыню за 5 апошніх гадоў ФК "БАТЭ" асароміўся і пакінуў краіну без вялікага футбола Еўропы, хоць для клуба заканчваюць будаваць новы еўрапейскі стадыён.

**Мінск.** Самым дарагім у РБ стаў кошт навучання на стаматалагічным факультэце БДМУ – 19,2 млн. рублёў, у ВНУ краіны колькасць бюджэтных месцаў зменшылася на 1700.

**Магілёў.** Кіраўніцтва вобласці загадала прадпрыемствам рэгіёна даць 10 мільярдаў рублёў, каб выратаваць ад ліквідацыі і банкрутцтва ХК "Магілёў", яго пакінулі вядучыя хакеісты.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Орша.** Раніцай ля горада ў выніку сутыкнення дзвюх іншамарак загінула 8 чалавек, а 9-ты памёр у бальніцы, яны былі грамадзянамі Узбекістана, Украіны і Азербайджана.

**Ушачы.** Раён стаў самым праблемным у вобласці, бо баршчавік Сасноўскага заняў тут ужо 210 гектараў, на Віцебшчыне – 700 га, яго загадалі паўсюдна знішчыць механічна.

**Докшыцы.** Вучоныя-біёлагі НАН Беларусі апазналі ў нарабіўшай многа шуму "чупакабры", якая напала ў Прудзінках на кароў і цялят, маладога янотападобнага сабаку.

**Лепель.** Экіпажы 20 з 69 збожжаўборачных камбайнаў на сёлетнім жніве ў раёне ўкамплектавалі гараджанамі, толькі тры гаспадаркі мелі свае сродкі на закуп паліва.

**Глыбокае.** На сходзе жыхароў вёскі Дзеркаўшчына і яшчэ 14-ці суседніх заклікалі перастаць трымаць свіней у зоне 5 кіламетраў ад свінакомплексу "Маліноўшчына" з-за афрыканскай чумы.

**Чашнікі.** У сувязі са складанай абстаноўкай па афрыканскай чуме свіней жыхарам шэрагу вёсак раёна загадалі прымусова прырэзаць усіх кабаноў, свінаматак і нават парасят.

**Наваполацк.** Кіраўнік фірмы "ЛЛК-Нафтан"па вытворчасці прысадак да рухавікоў Пётр Катульскі стаў адным з 12 лепшых топ-менеджэраў Беларусі "Чалавек справы-2013".

**Сянно.** Па прадстаўленні пракурора раёна ад займаемай пасады вызвалілі дырэктара гаспадаркі без нават сярэдняй адукацыі, яго дыплом аб сканчэнні ВНУ быў ліпавым.

**Орша.** У цэнтры горада пасля капітальнага рамонту ўрачыста адкрылі абноўлены будынак станцыі пералівання крыві з сучасным абсталяваннем, у рэгіёне налічваецца 1300 актыўных донараў.

**Верхнядзвінск.** Паблізу Кургана Дружбы ў 22-гі раз працаваў міжнародны маладзёжны лагер "Бе-La-Русь" юнакоў і дзяўчат з Латвіі, Расіі і Беларусі, сёлета яго вялі беларусы.

**Браслаў.** Да прыезду пажарных днём у вёсцы Цяцеркі 27-гадовы сусед выратаваў ад гібелі 85-гадовую пенсіянерку, аднак агонь зрабіў яе хату непрыгоднай да нармальнага жыцця.

**Расоны.** З-за неасцярожнасці пры курэнні пасля выпіўкі на пажары ў вёсцы Горы ноччу зажыва згарэў у дачным доме мужчына, агонь знішчыў і дах ягонай лазні.

**Докшыцы.** У Бярэзінскім біясферным запаведніку зробяць у 2014 годзе для турыстаў на возеры Плаўна спецыяльныя плаваючыя домікі на вадзе для знаёмства з прыродай краю.

**Орша.** Днём на дарозе ля Барані вадзіцель іншамаркі падчас абгону вылецеў на сустрэчную паласу, у выніку ДТЗ яшчэ 3 аўто зляцелі ў кювет і былі моцна пашкоджаны.

**Віцебск.** Шматпакутны ФК "Віцебск" зноў застаўся без дырэктара, у каманды катастрофа з фінансамі, а кіраўніцтва вобласці і горада не жадае, каб яна гуляла ў вышэйшай лізе.

*Служба інфармацыі "ВГ"*

# Вадасвятны малебен святому вялікапакутніку і лекару Панцелеіману ля крыніцы Грамякі

■ Уладзімір Скрабатун

На Глыбоччыне ёсць толькі адна крыніца, якая лічыцца культавай, гэта – крыніца ў в. Бабруйшчына, што выцякае з-пад гары, на якой стаіць царква. На самой крыніцы стаіць каплічка са скульптурай св. Іаана Хрысціцеля. Вада з крыніцы мае выразны пах серавадароду, а за "польскім часам" тут хацелі нават пабудаваць шпіталь, бо вада мае лекавыя ўласцівасці.

А вось крыніца св. Яна (Іаана) пад Чарневічамі – больш вядомая, яе масава наведваюць, асабліва на Хрышчэнне 19 студзеня. Фактычна з крыніцы выцякае ручай мінеральнай вады. Аднак, крыніца і капліца на ёй знаходзяцца ў Мёрскім раёне, хоць і прыпісаная да Чарневіцкага праваслаўнага прыходу.

А вось Пастаўшчыне пашанцавала больш – тут дзве культавыя крыніцы: у Вярхоўі, вада якой нібыта лечыць вочы, – пра яе гады тры таму мы пісалі, і крыніца Грамякі, што на паўдарозе з Норыцы ў Сарокі, на беразе возера Вешняе. Вада з крыніцы таксама лічыцца гаючай. Ды і ехаць да яе ўдвая бліжэй, чым да крыніцы св. Яна.

11 жніўня а 10-й гадзіне на крыніцы Грамякі адбыўся Вадасвятны малебен вялікапакутніку і лекару Панцелеіману. Урачыстае набажэнства правёў іерэй Анатоль Папоў, настаяцель храма Пакрова Прасвятой Багародзіцы ў с. Асінагарадок. Усіх прысутных на Вадасвятным малебне было не менш за 100 чалавек. Хтосьці з бліжэйшых вёсак дабіраўся на роварах, хтосьці з далейшых ваколіцаў – на аўтамашынах. Да пачатку малебна дождж, які ліў зранку, сціх, надвор'е злітавалася.

Крыніца Грамякі выцякае з-пад пагорка, утвараючы сабой невялікае азярцо дыяметрам пад дзесяць метраў. Жывяць азярцо да пяці струменяў. Па цэнтру – тры самыя буйныя. Яны так моцна бруяць, што ствараецца ўражанне: вада кіпіць нібы ў катле. Струмені ўздымаюць "пыл" з дробнага пяску, які вісіць над струменямі, нібы невялікія аблокі. Цікава: каб ступіць на дно – пойдзеш у бездань? Дзіўна, але ў азярцы, якое ўтварае крыніца, няма ні рыбы, ні жаб, не бегаюць па паверхні вады ніякія кузуркі. Кажуць, з-за таго, што ў вадзе выяўленая прысутнасць серавадароду.

Вада ў крынічным азярцы – крышталёвая, хоць адлівае блакітам. Прысутны на мерапрыемстве мясцовы жыхар паведаміў аўтару гэтых радкоў: "Вада – сцюдзёная, смачная, доўга ўтрымліваецца ў посудзе, не псуецца, не выпадае ніякага асадку. Сам правяраў! Год адстаяла!"

– А што за трубы ляжаць у вадзе на дне крыніцы? Пампуюць некуды крынічную ваду?– пытаю ў суразмоўцы.

– Не, гэта не трубы! Гэта бярвенні ад зруба, які быў пастаўлены на крыніцы ў вельмі, вельмі даўнія часы. Ніхто ўжо не памятае.

– Дзіўна,– кажу,– за столькі часу і не згнілі. Толькі чорнымі сталі. Я й падумаў – трубы, бо гладкія, правільнай круглай формы.

Вада з крынічнага азярца выцякае не ціхай ручаінай, а хуткаплынней рачулкай. Далей, крокаў праз пятнаццаць – падобнае азярцо, а потым, крокаў праз дваццаць упадае ў невялікае возера Вешняе, якое ракой Ласіцай злучаецца з іншым возерам – Крывым, ці, як завуць інакш яго глыбоцкія рыбакі, Крыўскім.

Вернікі вакол крынічнага азярца запалілі свечкі. Відовішча пылаючых сотняў свечак, якія яшчэ адбіваюцца ў вадзе, нібы ў люстэрку, неверагодна прыгожае.

Прыгожа спявалі пеўчыя. Айцец Анатоль зачытаў доўгі спіс імёнаў вернікаў – ад немаўлят да вельмі сталага веку, нямоглых – тых, якія чакаюць хутчэйшага выздараўлення. Асвечаны келіх вады быў выліты ў крынічнае азярцо. На заканчэнне ўрачыстасці вернікі падыходзілі да абраза з выявай вялікапакутніка і лекара Панцелеімана, цалавалі яго, потым крыж у руках айца Анатоля, і кожны быў акроплены святой вадой.

На развітанне са святой крыніцай людзі напаўнялі ёмістасці вадой, каб увезці дадому, камусьці яна можа і дапамагчы. Зрэшты, як адзначыў айцец Анатоль, прыязджаць за святой вадой можна цэлы год, а не толькі ў дзень Вадасвятнага малебна. Увесь час вада тут будзе гаючай.




Самы лепшы варыянт даезду да крыніцы Грамякі – з шашы Полацк - Вільня звярнуць на Норыцу, потым ехаць у бок Сарок не больш за 4 км, шыльда «Крыніца Грамякі» пакажа, дзе звярнуць, ехаць да крыніцы каля 350 м.





Запаленыя свечы на беразе крынічнага возера.



Келіх асвечанай вады выліваецца ў крыніцу.

# Вялікапакутнік Панцелеіман († 305 год)

Нарадзіўся ў Нікамедзіі ў сям'і слыннага паганца (язычніка) і атрымаў імя Панталеон. Яго маці Явула была хрысціянкай і выхоўвала сына ў сваёй веры, але памерла, калі Панталеон быў у падлеткавым узросце. Яго бацька аддаў сына ў паганскую школу, а затым даручыў слыннаму лекару Еўфрасіну для вывучэння Панталеонам лекарскага мастацтва. Неўзабаве пра яго пачуў рымскі імператар Максіміян, які пажадаў бачыць Панцелеімана пры сваім двары.

Прэсвітар Ермалай, які пражываў у Нікамедзіі, заўважыў Панцелеімана і пачаў распавядаць яму пра хрысціянства. Паводле жыція, Панталеон паверыў у Хрыста пасля таго, як, убачыўшы дзіця, якое памерла ад укусу змяі, ён па малітве да Ісуса Хрыста ўваскрэсіў яго. Пасля гэтага ён прыняў вадохрышча ад прэсвітара Ермалая і атрымаў імя Панцелеіман.

Стаўшы бязвыплатным лекарам, Панцелеіман пазбавіў шматлікіх лекараў прыбытку, і на яго паступіў данос імператару Максіміяну, які сведчыў пра тое, што Панцелеіман наведвае ў турме хрысціян і лечыць іх імем Хрыста. Імператар паклікаў Панцелеімана і прасіў аспрэчыць данос. Святы прапанаваў імператару паклікаць аднаго невылечнага хворага і зладзіць выпрабаванне. Хто вылечыць яго: ён ці паганскія жрацы — вера таго і павінна быць праўдзіваю. Паводле жыція, паганскія жрацы не змаглі вылечыць хворага, а Панцелеіман сілай малітвы дараваў нямогламу вылячэнне. Пасля гэтага шматлікія паверылі ў Хрыста, а Максіміан разлютаваўся на Панцелеімана і загадаў катаваць яго, а затым кінуць цяжкім каменем у мора. Але Панцелеіман застаўся цэлы, тады яго падвергли новым пакутам: павесілі на дрэве, палілі свечкамі, потым ірвалі жалезнымі кіпцюрамі, калесавалі, кідалі ў кіпячы цын, спрабавалі ўтапіць у моры. Дзікія звяры, якім ён быў кінуты на разарванне, лізалі яму ногі.

Пасля усіх катаванняў Панцелеімана прысудзілі да адсячэння галавы. Яго прывязалі да алеінага дрэва і хацелі адсекчы галаву, але святы стаў маліцца, і меч не прычыніў яму шкоды. Падчас малітвы голас з нябёсаў заклікаў Панцелеімана ў Царства Нябеснае і святы заклікаў вояроў выканаць дадзены ім загад. Паводле жыція, калі яму адсеклі галаву, то з раны пацякло замест крыві малако, а масліна тут жа пакрылася пладамі. Кінутае ў вогнішча цела вялікапакутніка не згарэла і было пахавана хрысціянамі.

ГалаваПанцелеіманазахоўваецца ў Панцелеіманавым манастыры на Афоне. У Праваслаўнай царкве св. Панцелеіман шануецца як заступнік вояроў (яго паганскае імя Панталеон перакладаецца як «леў ва ўсім»), а таксама як лекар, што звязана з яго другім, хрысціянскім, імем Панцелеіман — «усяміласцівы».



**Кліменцій Кожан,**
краязнаўца, выпускнік Глыбоцкай педвучэльні.
*м. Германавічы.*

# Помніку князю Альгерду – быць

**Працяг.**
*Пачатак ў №32 (696).*

*Дык чым не дагадзіў князь Альгерд прадстаўнікам арганізацый, якія аб'ядноўваюць этнічных рускіх горада Віцебска? Няўжо яны, жывучы ў горадзе на Дзвіне, сапраўды ніколі не чулі, што жывуць на былых землях Вялікага Княства Літоўскага?*

*Ды проста нічога не дакажу таму, хто ведае не гісторыю, а лозунг: "Масква – гэта наша ўсё!" Аказваецца, на іх думку, "устаноўка побач з праваслаўнай Васкрасенскай царквой помніка князю Альгерду, фактычна з'яўляецца прамым выклікам праваслаўю і пагрозай адзінай культурна-гістарычнай прасторы Саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі".*

Ну што тут скажаш?! Так, праваслаўе Віцебска і праваслаўе Масквы – гэта было не адно і тое. Так, Альгерд далучыў да Вялікага Княства Літоўскага некаторыя сённяшнія рускія землі. Так, ён шмат у чым быў больш паспяховым, чым ягоны сусед – князь Маскоўскі Дзмітрый. Але ж якое трэба мець нахабства, каб сцвярджаць, што беларусы ўсім гэтым не павінны ганарыцца! Вось з такога нахабства купкі не вельмі адукаваных і не вельмі інтэлігентных людзей і ўзнікаюць міжнацыянальныя крыўды, канфлікты і, нават, варожасць.

Гэтыя людзі не зразумелі і не хочуць разумець, што Беларусь – не Расія. Яны не маюць павагі да нашай краіны як да самастойнай дзяржавы са сваёй гісторыяй, сваімі героямі і антыгероямі. Яны так і не зразумелі, што ўсё ж такі трэба паважаць гаспадароў дома, у якім жывеш. Каб потым не енчыць: "Нам тут дрэнна, нам раяць ехаць на Радзіму, якую мы так любім" ("Народ. Воля, 30.04.2013г, №34).

Як бачым, аўтары адкрытага ліста Прэзідэнту Беларусі ўсё паставілі з ног на галаву. Дык якім жа на самай справе быў князь Альгерд? Каб даведацца праўду аб Альгердзе, звернемся да зместу асноўных палажэнняў артыкула Арцёма Дзянікіна "Памятник Ольгерду".

Якія ж прэтэнзіі прад'явілі аўтары адкрытага ліста князю Альгерду (1296-1377)?

1. "Ольгерд не имеет отношения к белорусскому народу."

Чаму ж кіраўнік нашай дзяржавы і князь Віцебскі не мае адносін да беларускага народа? А хто тады мае? Вось скажам, Расіяй правіў род Раманавых – зусім анямечаны. Раманавы маюць адносіны да рускага народа? Дарэчы, апошні па тытулу Вялікі князь Літоўскі – гэта імператар Мікалай ІІ, прылічаны Рускай праваслаўнай царквой да ліку святых. Узнікае пытанне: чаму аднаго Вялікага князя Літоўскага РПЦ узводзіць у святыя, а другому ставіць помнік недалёка ад праваслаўнага храма БПЦ лічыць "кощунственным"?

Якое ж этнічнае паходжанне Альгерда? Яго бацька Гедымін – заходні балт, яцвяг (карэнны жыхар Заходняй Беларусі, якая тады называлася Літвой). Маці – руская князёўна з роду Рурыкавічаў. Ён напалову крыві Рурыкавічаў.

У Альгерда было дзве жонкі: першая – віцебская князёўна Марыя, другая – цвярская князёўна Ульяна (а жонкай цвярскога князя Дзмітрыя Міхайлавіча была сястра Альгерда Марыя). Дзеці Альгерда былі на тры чвэрці крыві Рурыкавічаў. Палавіна дзяцей – на тры чвэрці рускія (цвярскія), але аўтары ліста іх чамусьці лічаць "чужакамі".



Аўтары ліста, напэўна, думаюць, што помнік Альгерду трэба ставіць не ў Віцебску, а ў рэспубліцы Летува – гэта значыць, у Жамойці. Але Альгерд не з'яўляецца для жамойтаўлетувісаў "сваім князем". Па-першае, заходняй часткай ВКЛ правіў брат Альгерда Кейстут, а Альгерд правіў усходняй часткай ВКЛ. Яе складалі, калі лічыць па гарадах, Вільня, Ашмяны, Крэва, Полацк, Віцебск, Орша, Барысаў, Менск, Бабруйск, Слуцк, Рагачоў, Мсціслаўль, Крычаў. Альгерд жыў то ў Віцебску, то ў Крэўскім замку, то ў Вільні.

Па-другое, у гады яго праўлення тэрыторыя Летувы была пад тэўтонскім ігам і не ўваходзіла ў склад ВКЛ. Арцём Дзянікін адзначае, што людзі, якія падпісалі адкрыты ліст, напэўна, не ведаюць, што "літоўцаў" (тады іх называлі жамойтамі, вызвалілі ад тэўтонаў сын Альгерда Ягайла і пляменнік Альгерда Вітаўт – у вялікай Грунвальдскай бітве 1410 года. Вось па яе выніках тэрыторыя цяперашняй рэспубліцы Летувы (Жамойці) увайшла ў склад ВКЛ, але ўжо пасля смерці Альгерда.

Калі гаварыць, што Альгерд быццам бы "не имеет никакого отношения к белорусскому народу", то выходзіць, што беларускі народ не мае ніякіх адносін ні да перамогі пад Грунвальдам, ні да перамогі ў Кулікоўскай бітве. Але ж Кулікоўскай бітвай кіравалі два сыны Альгерда – Андрэй Полацкі і Дзмітрый Бранскі Альгердавічы, а рашаючую ролю адыгралі іх засадныя палкі ліцвінаў ВКЛ, якія і разграмілі армію Мамая. Арцём Дзянікін падкрэслівае, што, імкнучыся зняславіць бацьку гэтых герояў Кулікоўскай бітвы, аўтары ліста тым самым адвяргаюць удзел беларусаў (ліцвінаў) у той бітве і сеюць рознь паміж народамі.

Аўтар артыкула выказвае думку, што помнік Альгерду важны для беларусаў хаця б таму, што дзеці гэтага князя праславілі наш народ і Айчыну перамогамі ў двух вялікіх бітвах – Кулікоўскай над Мамаем і Грунвальдскай над немцамі. Для аўтараў ліста гэта, напэўна, не каштоўна.

2. "Вероотступник" ці "язычник".

Гэта паклёп на князя. Гісторыкі называюць яго змагаром за праваслаўе ў ВКЛ. Ён меў праваслаўнае імя Аляксандр. (Другое праваслаўнае імя мелі тады ўсе ліцвінскія князі, напрыклад, Ягайла – Якаў, Вітаўт – Юрый).

3. "Злодзей Руси".

Поўны тытул Альгерда-Аляксандра: Вялікі князь Літоўскі і Рускі (у адносінах Кіеўскай зямлі цяперашняй Украіны). Як жа могуць аўтары ліста называць Вялікага князя Рускага "злодеем Руси"? Якія "злодеяния" супраць Русі здзейсніў гэты сын рускай князёўны, па крыві напалавіну Рурыкавіч? Толькі хворая фантазія можа называць "Злодеем Литвы" – ён быццам бы "замучыў" трох літоўскіх праваслаўных, як пішуць аўтары ліста.

Іван Жахлівы – сапраўды "злодей Руси" і "злодей православия Руси", таму што выразаў усё праваслаўнае духавенства Ноўгарада, Пскова, Цверы, Полацка, а наўгародскага мітрапаліта жаніў на кабыле, адвёз на кабыле, прывязанага тварам у круп (каб гной у твар падаў) у Маскву, дзе прылюдна павесіў. Падобных злачынстваў Русь і праваслаўе ні ад каго не ведалі.

Альгерда ў адкрытым лісце назвалі "агрессором". Якімі ж "агрессиями" займаўся гэты "злодей Руси"? А вось якімі. У 1341 годзе разам з братам Кейстутам быў запрошаны псковічамі для абароны Псекоўскіх зямель ад лівонскіх рыцараў. Абарона Русі ад немцаў – ці ж гэта зладзейства? Удзячныя псквічы прапанавалі Альгерду княжыць у Пскове, але ён адмовіўся. Пасля смерці цесця Яраслава Альгерд стаў Віцебскім князем, умацоўваў горад, будаваў праваслаўныя храмы. Ужо хаця б за гэта яму варта ставіць помнік у Віцебску.

У той час Масква багацела і ўзвышалася на зборы даніны з Русі. Татары пакідалі ёй палавіну за "труды". А вось Украіна (Русь) наадварот, зусім знявакела ад татарскага іга. Не маючы сіл цярпець гэта іга, кіеўляне звярнуліся за дапамогай да Альгерда. У 1362 годзе ён, сабраўшы ўсе войскі ВКЛ-Беларусі, вызваліў ад татарскага іга ўкраінцаў (русінаў).

У бітве на рацэ Сіняя Вада Альгерд нанёс Ардзе паражэнне, якое па сваім выніку і значэнні было больш важнае, чым перамога ў Кулікоўскай бітве 1380 года. Упершыню Залатая Арда пацярпела такое паражэнне. Землі ад Дона да вусця Дуная, а таксама Крым, выйшлі з яе падпарадкавання. Татарская дзяржава страціла вялізную крыніцу даходаў разам са зборшчыкам даніны Масквой, якая сабе пакідала палову даніны. На зямлі Кіева ў маскоўскіх князёў з часоў Аляксандра Неўскага меўся ярлык ад царох Арды, таму гэта быў аднолькавы ўдар па даходах Масквы. Вось чаму маскоўскія гісторыкі ці замоўчвалі гэту падзею, ці гаварылі аб ёй негатыўна.

Другім важным вынікам перамогі Альгерда пры Сіняй Вадзе стала далучэнне да ВКЛ Кіеўскай Русі – Валыні, Падолля, Кіеўшчыны. Яшчэ ў склад ВКЛ увайшлі вызваленыя ад маскова-ардынскага іга Брагін і Мазыр. Гэтым самым Альгерд завяршыў далучэнне ўсіх тэрыторый, якія пазней утварылі сучасную Рэспубліку Беларусь.

***Працяг будзе.***

**Інна Сняжкова**

# Святая Ганна, маліся за нас!

**27 ліпеня ў Лучайскім касцёле адбылося адно з галоўных парафіяльных свят — фэст святой Ганны. У шчырай малітве ён аб'яднаў як ніколі вялікую колькасць вернікаў — мясцовых і прыезжых. Сапраўдным падарункам для ўсіх стала святочная праграма, у якой удзельнічала нямала знакамітых артыстаў.**

Для вернікаў Ганна — узор і прыклад духоўнага, рэлігійнага выхавання. Святая Ганна і Яўхім выхавалі Панну Марыю настолькі, што яна змагла прыняць Духа Святога. Яна — узор бабулі і маці, якая навучыла вернасці, адказнасці, працалюбству. Гэта думка неаднаразова пацвярджалася падчас святой Імшы. Яе ўзначаліў наш зямляк — ксёндз Аляксандр Рагіня, які цяпер прапаведуе ў Казахстане. Ён быў не адзіным госцем — Лучай у той дзень таксама наведаў хор "Fiat" з Міёр. Рэлігійныя песні ў іх выкананні захапілі, зачаравалі кожнага. Пасля святой Імшы ў парафію былі перададзеныя рэліквіі святога Андрэя Баболі.

Пасля ўрачыстай працэсіі пачалася насычаная музычная праграма. Адкрылі яе артысты з Шаркаўшчыны, якія ў Лучаі, дарэчы, частыя госці. Пераймалі творчую эстафету гурты "RECHA" (Мінск), "Горад N" (Полацк), "The Perfect life" (Наваполацк), знакаміты Лявон Вольскі.

Дар'я Палынская дзеліцца сваімі ўражаннямі:

Вёска Лучай сустрэла нас рознакаляровымі гірляндамі, развешанымі каля касцёла, вялікай колькасцю прыпаркаваных ля дарог машын, і па-сьвяточнаму прыбранымі людзьмі. На пляцоўцы ля прыступак да касцёла ўжо ладзілася сцэна, падключалася і расстаўлялася апаратура. У нішах пад сценамі касцёла ўжо працавалі міні-крамкі, у якіх можна было набыць як цацкі, так і цукеркі.



Калі мы прыехалі, у касцёле ўжо ішла святая Імша. Варта адзначыць, што людзей на Імшу прыйшло шмат, прычым, не толькі людзі старэйшага пакалення, але й таксама моладзь і дзеці. Вельмі ўразіў хор, які спяваў. Неверагодна чыста, моцна, прыгожа.

Канцэрт на завяршэнне фэсту пачаўся а 19 гадзіне з выступу моладзі з Шаркоўшчыны. Прыгожыя дзяўчаты ў белых строях ужо з першых песень захапілі ўвагу гледачоў, і ў прыватнасці, спадабаліся маленькім дзеткам, якія пачалі танчыць на пляцоўцы перад сцэнай. На канцэрт таксама былі запрошаныя розныя гурты – "Горад N"з Полацка, "The Perfect life"з Наваполацка, "RECHA" з Мінска, і іншыя выступоўцы.

Нечаканым і прыемным для многіх стала з'яўленне Лявона Вольскага з сваёй праграмай.

Гурт «Горад N» з Полацка на канцэрт прывёз новую песню «Алілюя» – вядомую ўсім песню Леанарда Коэна, толькі па-беларуску. Твор, які з'явіўся ў 80-х гадах і які чуў, мабыць, кожны. Лідар гурта Ігар Палынскі распавёў нам, чаму яны вырашылі заспяваць яе:

*– Не так даўно была анлайн трансляцыя з канцэрта Арбенінай, дзе яна праспявала гэтую песню на англійскай мове. Яна мяне вельмі зачапіла тады. А пасля я ўбачыў на сайце Глеба Лабадзенкі пераклад Андрэя Хадановіча на беларускую мову, звязаўся з аўтарам праз фэйсбук, і ён дазволіў мне спяваць яго пераклад.*

Скончылася свята святочным феерверкам.

